Слова пісьменніка

# Ці трэба судзіць паэтаў?

Неяк прачытаў у газеце "Народная воля", што група вядомых расійскіх пісьменнікаў звярнулася ў Віцебскі абласны суд, дзе доўжыўся працэс па справе паэта Славаміра Адамовіча, у вершы якога "Убей президента!" праваахоўнікі ўгледзелі "призыв к совершению покушения в отношении высшего должностного лица Республики Беларусь".

Дык вось, азнаёміўшыся з вершам, расійскія пісьменнікі прыйшлі да высновы, што гэты твор не ўтрымлівае крамолы, у ім "нет призыва к конкретному действию против конкретного лица, и все стихотворение написано в стиле гротеска, поэтического паромантса. В конце XX столетия пора наконец понять, что художественное слово, поэтический образ не могут быть поводом для преследования писателя или поэта". Таму расійскія пісьменнікі праз адваката Г.Паганяйлу катэгарычна настойвалі на спыненні крымінальнай справы супраць С.Адамовіча. На іх погляд, гэты ганебны працэс цалкам дыскрэдытуе судовую ўладу перад міжнароднай грамадскасцю...

Шчыра скажу, што я слаба знаёмы з творчасцю Славаміра Адамовіча. Помніцца толькі, што ў снежні 1985 года ён добра сябе праявіў на семінары маладых пісьменнікаў рэспублікі, які праходзіў у Каралішчавічах, — былым Доме творчасці СП Беларусі. Як паведамлялася тады ў "Літаратуры і мастацтве", Рыгор Барадулін, падводзячы вынікі абмеркавання творчасці маладых паэтаў, у ліку найлепей зарэкамендаваўшых сябе першым назваў Славаміра Адамовіча — рабочага Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава.

І вось "Убей президента!"... Наўрад ці стане хто-небудзь сцвярджаць, што гэта творчая ўдача маладога паэта. Людзі стагоддзямі кіруюцца біблейскім запаветам "Не забі", а тут... Не без таго, было, што і вядомыя пісьменнікі выступалі не згодна са святымі запаветамі. Хоць бы Янка Купала з заклікам "рэжце гітлерцаў паганых, каб не ўскрэслі век яны". Або Ілья Эрэнбург са сваім "Забі немца!". Але тое ж было ў час вайны, калі вырашаўся лёс нашай краіны, нашага народа... Не, што ні кажы, а нам больш да сэрца радкі Сяргея Ясеніна:

*И зверье, как братьев наших меньших,*
*Никогда не бил по голове...*

Хоць мусім прызнаць, што часам тыя самыя "братья наши меньшие" выклікаюць большую сімпатыю, чым іншы прахіндзей, які высока ўскараскаўся па службовай драбіне.

То аб мастацкім узроўні верша С.Адамовіча і весці б размову, дыскусію. Але ж віцебскіх праваахоўнікаў зацікавілі не мастацкія, а крымінальныя вартасці спрэчнага твора.

Ды паколькі ў складзе падпісантаў дасланай з Масквы ў Віцебск заявы Андрэй Бітаў, Дзмітрый Ліхачоў, Андрэй Вазнясенскі, Бэла Ахмадуліна, Андрэй Прыстаўкін і іншыя ўсяму свету вядомыя пісьменнікі і дзеячы культуры, наўрад ці ёсць падставы сумнявацца ў іх кампетэнтнасці пры ацэнцы названага верша.

Праўда, іх сцвярджэнне, што ў канцы XX стагоддзя час, урэшце, зразумець, што мастацкае слова, паэтычны вобраз не могуць быць падставай для праследавання, не зусім дасведчанае, бо гэта разумелі і ў XIX стагоддзі, і раней.

Прыгадаем хоць бы такую літаратурную з'яву. Паэт Кандрат Рылееў змясціў у часопісе свой сатырычны верш "К временщику", у якім уся чытацкая Расія пазнала ўсемагутнага генерала А.А.Аракчэева — любімца імператара Паўла І, а затым і Аляксандра І, у той час першай пасля цара асобы ў дзяржаве. Прагрэсіўная грамадскасць з жахам чакала, што станецца з аўтарам сатыры, якія кары ўпадуць на галаву рэдактара часопіса. Але ні з аўтарам, ні з рэдактарам нічога благога не здарылася (гэта пазней К.Рылееў быў павешаны ў Петрапаўлаўскай цытадэлі, але не за верш, а за кіраўніцтва паўстаннем дзекабрыстаў супраць самадзяржаўя). Аракчэеў жа, хоць не дужа быў граматны, хоць не меў ніводнага дыплома аб заканчэнні вышэйшай навучальнай установы, не палічыў для сябе магчымым прызнаць, што гэта ён з'яўляецца прататыпам гнеўнай сатыры.

Ды што там Рылееў! Так і Аляксандр Пушкін, і Пётр Яршоў маглі б апынуцца за свае казкі ў турме ці следчым ізалятары. Падумаць толькі: пушкінскі прыткі пеўнік дзеўбануў у лоб цара, і той венценосец мігам сканаў, а ў "Каньку-гарбунку" Яршова цара наогул жыўцом зварылі ў катле з кіпенем. А цароў жа тады было не так багата, на ўсю Расію — адзіны. Аднак самаму жорсткаму расійскаму самадзержцу не магло прыйсці ў галаву, што казка пра яго...

А сёння... Ці мала на свеце, на тэрыторыі былога СССР ды і ў нашай рэспубліцы розных прэзідэнтаў — і дзяржаўных, і навуковых, і ўсемагчымых фірмаў, кампаній, канцэрнаў, таварыстваў... Мне думаецца, пазнаў у гэтым вершы сябе не які там вялікі ці малы прэзідэнт — "пазналі" тут канкрэтную асобу пільна-паслужлівыя праваахоўнікі і гэтым аказалі той асобе мядзведжую паслугу.

Вядома, выпадкі, калі ў мастацкіх творах пазнавалі сябе важныя персоны, здараліся і раней, нават пры савецкім часе. Помніцца, і я сам, і родная мне "Магілёўская праўда" трапілі ў пераплёт. Было гэта гадоў 30 назад. Газета змясціла маё сатырычнае апавяданне "Мутонавае футра", у якім чамусьці пазнаў сябе другі сакратар нашага Магілёўскага абкама КПБ (каб лішні раз не траўміраваць пажылога чалавека, не буду называць яго прозвішча). Я кажу "чамусьці", бо аўтар, ствараючы вобраз свайго літаратурнага героя, бярэ рысы многіх знаёмых. І раней бывала, што з-за аднаго і таго ж героя нейкага майго сатырычнага твора крыўдавалі многія, нават сябры, родзічы, папракаючы, што менавіта з іх спісаў. Не без таго, штосьці браў і з іх, і з сябе самога. Але адно, калі сябе "пазнае" просты чалавек, зусім іншае, калі "пазнае" сябе важная персона.

Вось і ў той раз. Рана-ранкам рэдактара газеты В.Я.Цітаўца выклікаў грозны начальнік. Прыбег Васіль Яфімавіч з абкама як апараны. А потым раз і другі да позняга засядала бюро абкама — з выклікам на тыя пасяджэнні і намесніка рэдактара, і сакратара рэдакцыйнай партарганізацыі. Асабліва старалася сакратар абкама па ідэалогіі Н.Л.Сняжкова, якая да таго з В.Я.Цітаўцом працавала ў ЦК КПБ, нават, казалі, нейкі час падначальвалася, калі той быў загадчыкам сектара друку, а яна інструктарам. Можа, гадалі, з таго часу Ніна Лявонаўна таіла якую крыўду на Цітаўца. Невядома, чым бы тады скончылася ўся тая гісторыя, калі б пасяджэнні бюро вёў не першы сакратар абкама Г.А.Крывулін, чалавек стрыманы, разважлівы. Хоць гэта не перашкаджала потым яму (ды і іншым партыйным функцыянерам) доўга яшчэ бэсціць мяне ў дакладах, выступленнях. Адказны ж работнік ЦК КПБ распісаў мяне ў рэспубліканскім партыйным часопісе як палітычна няспелага... Але і тое ўжо добра, што і Цітавец, і я ўцалелі ў рэдакцыі, хоць бюро партарганізацыі, выконваючы ўказанне абкамаўскага начальства, вынесла мне, дзеля парадку, нейкае спагнанне, праўда, без занясення ва ўліковую картку. Што ж датычыць другога сакратара, дык ён неўзабаве быў пераведзены ў Мінск на іншую, не партыйную кіраўнічую работу: мабыць, пасля ўзнятага ім таго вэрхалу палічылі, што заставацца яму на ранейшым месцы няёмка. Ну, а "Мутонавае футра" праз нейкі час было змешчана ў маім гумарыстычным зборніку і ніякага ажыятажу не выклікала, ніхто больш не папракаў аўтара за палітычную няспеласць, калі і былі якія заўвагі наконт той кніжкі, дык гэта, як водзіцца ў рэцэнзіях, у плане мастацкай вартасці змешчаных у ёй твораў.

Горш давялося ў нашы дні паэту Славаміру Адамовічу. Лічы, год за кратамі, судовы працэс... Такое, бадай, магчыма толькі ў нашай суверэннай рэспубліцы.

А наконт жа вершаў, баек, гумарэсак, камедый і іншых падобных твораў у народзе кажуць: што напісана пяром, то не высячы тапаром. Бадай, нават судова-пракурорскім...

І яшчэ адна заўвага па тэксту заявы расійскіх пісьменнікаў. Маўляў, падобны працэс дыскрэдытуе судовую ўладу перад міжнароднай грамадскасцю... Здаюцца наіўнымі такія разважанні. Ну больш ці менш на адну дыскрэдытыўную праяву! Колькі ўжо ў так званым цывілізаваным свеце дзіву даваліся, назіраючы за тым, што адбываецца на Беларусі. То збіваюць паветраны шар, і двое замежных старых турыстаў гінуць. То разганяюць Вярхоўны Савет, то на міжнародным форуме паказваюць паварот ад варот прадстаўнікам беларускай заканадаўчай палаты з-за нелегітымнасці апошняй. То, як увесь свет бачыў па тэлевізары, на мінскай вуліцы міліцыянеры ці амонаўцы б'юць дубінкамі няўгодных маладых журналістаў пры выкананні імі службовых абавязкаў. То...

**Іван АНОШКІН.**

Ну і ну!

## Карыда ў Белавежскай пушчы

Усю вастрыню і прыгажосць іспанскай карыды адчулі двое падпіўшых наведвальнікаў дзяржаўнага нацыянальнага парку "Белавежская пушча". Як паведаміла карэспандэнту БелТА старшы навуковы супрацоўнік парку Ганна Дзенгубенка, айчынныя "тарэадоры" забраліся ў вальеру з зубрамі і вырашылі пагладзіць зубрыху. Такая фамільярнасць ёй яўна не спадабалася. Атака жывёліны была імклівай, і праз мінуту, паказаўшы незвычайны спрынтэрскі спрыт, адзін з "тарэадораў" ужо сядзеў на высокай агароджы. Яго не вельмі ўвішнаму прыяцелю пашанцавала менш: зубрыха падчапіла мужычка рогам у небяспечнай блізкасці ад "прычыннага месца" і падрала новыя штаны. Пасля гэтага ён тут жа працверазеў і імгненна пераадолеў амаль трохметровую агароджу. Вартаўнікі вальераў падаспелі якраз на заканчэнне бою.

За такі адносна шчаслівы зыход, адзначае Ганна Дзенгубенка, парушальнікі зубрынага спакою яшчэ могуць дзякаваць Богу, паколькі за сваю абражаную жонку не паспеў заступіцца гаспадар, які знаходзіўся побач, — зубр Вася.

**Іван КУКСА.**

Брэст.

## Сем'і ваенных нарэшце ўладкаваліся

Здачай у эксплуатацыю бальніцы і паліклінікі завершана будаўніцтва жылога гарадка для ваеннаслужачых і іх сем'яў, якія прыбылі з Германіі ў гарадскі пасёлак Рось Ваўкавыскага раёна. Як стала вядома карэспандэнту БелТА, за кошт нямецкіх сродкаў тут пабудавана 827 кватэр, сярэдняя школа з крытым басейнам і стадыёнам, камбінат бытавога абслугоўвання, дзіцячы сад на 330 месцаў, гандлёвы цэнтр, АТС і іншыя аб'екты з адпаведнай інфраструктурай.

Такія жылыя пасёлкі для сем'яў ваеннаслужачых на Гродзеншчыне з'явіліся ўжо ў Лідзе і Слоніме.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

## Шведы будуць інспектаваць "савецкія" самалёты

Інспекцыя паветранага транспартнага ведамства Швецыі збіраецца ўзмацніць кантроль за самалётамі замежнай вытворчасці. Плануецца інспектаваць кожны год 200—300 машын.

Больш жорсткі кантроль будзе праводзіцца ў адпаведнасці з пастановай Еўрапейскай камісіі ЕС, якая ў хуткім часе ўступіць у сілу. Прычына ж яго — мноства невядомых раней авіякампаній на тэрыторыі былога Савецкага Саюза.

З 1 чэрвеня два эксперты будуць кожны дзень рабіць выбарачны кантроль лётнага сертыфіката авіятараў і інспектаваць аснашчэнне самалётаў сродкамі бяспекі.

**Інэса МОІН.**

Стакгольм.

Спартыўная мазаіка

## Турысты Кіпра і Беларусі, аб'ядноўвайцеся!

Паміж Беларуссю і Кіпрам устаноўлены афіцыйныя кантакты ў галіне развіцця турызму. Дакументам, падпісаным на ўрадавым узроўні, прадугледжваецца наладжванне прамых сувязей турысцкіх арганізацый дзвюх краін, распаўсюджванне аператыўнай інфармацыі аб развіцці індустрыі турызму, аказанне дапамогі ў падрыхтоўцы спецыялістаў гасцінічнага сэрвісу.

Бакі створаць камітэт, які будзе кантраляваць выкананне пагаднення і распрацоўваць перспектыўныя праграмы супрацоўніцтва.

Як паведаміў у гутарцы з карэспандэнтам БелТА міністр спорту і турызму нашай рэспублікі Уладзімір Макейчык, у час перагавораў ішла таксама размова аб магчымасцях шырокага маладзёжнага турыстычнага ўзаемаабмену і аздараўлення беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. "Са свайго боку мы гатовы аказаць кіпрыётам неабходную дапамогу ў падрыхтоўцы спартсменаў высокага класа", — падкрэсліў міністр.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БелТА.**

Тревожно!

# СПИД шагает по стране...

## На начало апреля 1997 года в Беларуси официально зарегистрирован 1341 ВИЧ-инфицированный, у 15 человек наблюдается клиническое проявление СПИДа.

*По оценочным данным Программы ООН—СПИД и Всемирной организации здравоохранения, на 1 января этого года в мире насчитывалось более 29 миллионов ВИЧ-инфицированных. От этой страшной болезни умерло более 6 миллионов человек. Нашу маленькую республику чума XX века тоже не пощадила. Вспыхнувшая прошлым летом эпидемия СПИДа в Беларуси повергла в шок всех: и простых людей, и ученых. Кто виновен в этом? Наша бедность, безграмотность, непросвещенность? Или же это ученые чего-то не учли, в чем-то просчитались? Ходят слухи, что эпидемию "проспал" Республиканский центр профилактики СПИДа. Я решила пригласить на откровенный разговор главного врача Центра Валерия Глазовского. И прежде всего для того, чтобы услышать ответ на вопрос, как могло произойти в нашей республике подобное?*

**— Перед тем, как идти на встречу с вами, Валерий Анатольевич, я обзвонила несколько столичных поликлиник и узнала, что последние два года анализы на СПИД не делают всем обратившимся за медицинской помощью пациентам. Это раньше, даже при простуде, брали анализ крови на СПИД. Все заведующие, пытаясь объяснить эту ситуацию, были единодушны в своих предположениях: диагностические тест-системы стоят дорого. Нельзя ли как-то решить эту проблему?**

— Сегодня за границей, где вспышка СПИДа наблюдается уже давно, тестируется только донорская кровь. Там каждый решает сам, нужно ему сдавать анализы на СПИД или нет. Бывшие республики Советского Союза остаются едва ли ни единственными в мире, где категория людей, обязанных сдавать этот анализ, достаточно широкая. Это задержанные и заключенные под стражу, наркоманы, те, кто болеет венерическими заболеваниями. У нас в республике нет проблемы с обследованием на ВИЧ-инфекцию. В каждой поликлинике, по желанию, вам сделают забор крови.

Сегодня нет вакцин против СПИДа и нет лекарств. Ни вылечить, ни изолировать больных СПИДом невозможно. Более того, от момента заражения до проявления клинических симптомов проходит несколько лет. Вам скажет любой врач, что определить число ВИЧ-инфицированных невозможно. На взгляд специалистов, в Беларуси сегодня на одного выявленного ВИЧ-инфицированного приходится десять невыявленных. Каждый сам должен знать и понимать, насколько ему грозит опасность заразиться СПИДом.

**— Случались ли в вашей работе проколы: я имею в виду приобретение дорогостоящих импортных диагностических тест-систем с просроченным сроком реализации?**

— Не было ни одного случая, чтобы наш Центр приобрел просроченные тест-системы.

Для работы мы используем белорусские, российские, американские, французские и голландские тест-системы.

Конечно, тест-системы из США, Голландии и Франции дорогостоящие. Но нам необходимо их приобретать, и такая трата денег оправдана. Качество этих реактивов очень высокое. Импортные тест-системы мы используем только для тестирования донорской крови и для подтверждения диагностики. При обследовании пациентов на СПИД пользуемся российскими тест-системами, и только если они дали положительную реакцию, повторный анализ мы проводим на импортных.

**— Насколько мне известно, сотрудники Белорусского НИИ эпидемиологии и микробиологии занимаются разработкой диагностических тест-систем. Востребован ли их труд?**

— Сегодня, на мой взгляд, в нашей республике мы не можем производить качественные, конкурентоспособные тест-системы. И прежде всего из-за финансов. Ученые института эпидемиологии и микробиологии два года назад начали разрабатывать свои тест-системы, но, к сожалению, положительных результатов пока нет.

**— Если вспомнить лето прошлого года, то для вашего Центра оно, пожалуй, действительно было жарким. Такого количества ВИЧ-инфицированных, которое было выявлено в Светлогорске, не знала до этого времени вся республика. Чем вы опровергнете слухи, что Центр по профилактике СПИДа "проспал" эпидемию?**

— Существует так называемый дозорный метод обследования. И в Светлогорске, и в других городах республики наркоманы, которые стояли на учете в диспансерах, ежемесячно обследовались на СПИД. До июля прошлого года выявленных ВИЧ-инфицированных в этой среде не было. Вирус стал циркулировать летом. А мировая практика говорит, что если среди наркоманов, сидящих на игле, начинает циркулировать этот вирус, то минимум 70 процентов из них заражаются ВИЧ-инфекцией.

Нельзя обвинять наш Центр в том, что только он виновен в произошедшем в Светлогорске. СПИД — это не медицинская проблема, а социальная. Сегодня с таким же успехом можно упрекать Министерство образования, которое, кажется, не дорабатывает. Ведь никогда еще не было такой половой распущенности среди подростков, какая есть сегодня. А основной источник венерических заболеваний и угроза СПИДа — это беспорядочные половые связи. Можно спросить у работников жилищно-коммунального хозяйства, что они делают, чтобы пропагандировать опасность СПИДа. Такой же спрос и с Министерства культуры, и с других ведомств.

**— Если я не ошибаюсь, в сентябре прошлого года на профилактику СПИДа наше правительство выделило 22 миллиарда рублей. Куда были потрачены эти деньги? Какие научные разработки финансировались из этой суммы?**

— История этих денег несколько иная. 30 августа 1996 года госсекретарь Совета безопасности Виктор Шейман написал докладную записку на имя президента "Об угрожающем распространении ВИЧ-инфекции и наркомании". В ней предлагалось Кабинету министров рассмотреть вопрос о выделении целевым назначением дополнительных средств для обеспечения условий санэпидрежима в лечебно-профилактических учреждениях республики. Тогда Министерство здравоохранения, а не Центр по профилактике СПИДа, получило деньги на закупку индивидуальных средств защиты для медицинских работников и дезинфицирующих средств. Были собраны заявки, и в соответствии с этим Белмедтехника, Белфармация и Республиканский центр гигиены и эпидемиологии проводили да и сейчас еще проводят закупки. Сегодня, насколько мне известно, закуплены системы переливания крови, одноразовые шприцы, дезсредства.

**— И какие клиники республики их получили?**

— Прямые поставки шли только в медицинские учреждения Светлогорска. Распределение на местах проводит каждое областное управление здравоохранения.

**— На научные разработки из этой суммы были выделены какие-нибудь средства?**

— Нет.

**— Когда в августе прошлого года в СМИ появлялись материалы, что в Светлогорске вспыхнула эпидемия СПИДа, вы в своих комментариях говорили, что со словом "эпидемия" надо быть поосторожнее. Тогда вы уверяли, что можно говорить лишь о "повышенной заболеваемости". Что происходит в республике сейчас? Сколько сегодня белорусов ВИЧ-инфицированы?**

— К сожалению, сегодня приходится констатировать, что в Гомельской области наблюдается эпидемия СПИДа.

На начало апреля 1997 года в Беларуси официально зарегистрирован 1341 ВИЧ-инфицированный, у 15 человек наблюдается клиническое проявление СПИДа.

Почти все инфицированные и больные СПИДом живут в Гомельской области. Это 1119 человек, причем 963 из них прописаны в Светлогорске. В других областях республики пока относительно спокойно. В Минской области выявлено 15 ВИЧ-инфицированных больных, в Витебской — 20, Могилевской — 33, Брестской — 9. До недавнего времени прочерк в этой грустной статистике имела лишь Гродненская область, но в прошлом году медики выявили ВИЧ-инфекцию у четырех человек. В столице зарегистрировано 112 человек, зараженных вирусом этой страшной болезни.

**— Картина грустная. Такая же наблюдается и у соседей — в России и на Украине. Средства массовой информации не перестают напоминать, что в этих республиках эпидемия СПИДа уже собирает смертельный "урожай". Фиксировались ли у нас летальные исходы?**

— К сожалению, да. От СПИДа умерло 9 человек. В среднем, инфицированные вирусом СПИДа пациенты живут 10 лет. Правда, был случай, когда ребенок, родившийся от ВИЧ-инфицированной мамы умер, не прожив и пяти лет.

**— Угроза заразиться СПИДом половым путем по-прежнему остается самой опасной?**

— Да. Правда, если еще в начале прошлого года 80 процентов всех ВИЧ-инфицированных были заражены половым путем, то сейчас этот процент приходится на "шприцевую" наркоманию. Но для населения республики половой путь заражения остается наиболее опасным.

**— Ваши прогнозы на будущее...**

— Пессимистические. К сожалению, мне приходится говорить о том, что распространения инфекции нам не избежать, и я считаю, что только объединенными усилиями можно ее сдержать.

**Беседовала Мария ЭЙСМОНТ.**

Фотофакт




На автобусных маршрутах Гомеля скоро появятся закупленные в Германии двухэтажные "МАНы" — пока только два. Столько же немецких автобусов планируется приобрести еще, поскольку гомельчане потеряли надежду получать в дальнейшем венгерские "Икарусы".

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

Хочешь знать...

## Пьян ли ты?

Степени опьянения:

от 0,3 до 0,5 промилле — следы алкоголя в крови;

от 1,5 — легкая степень опьянения;

от 2,5 — средняя;

от 3 — сильная;

от 5 — тяжелое отравление, при котором возможна смерть.

...Все эти промилле перевести в граммы выпитого весьма затруднительно, поскольку все зависит от конкретного человека (рост, вес, способность крови к расщеплению алкоголя, естественный алкогольный фон и т.д.). Вот приблизительные нормы для мужчины средних лет, который весит 75 кг. Бутылка крепкого пива доводит содержание алкоголя в его крови до 0,5 промилле; 125 г водки — до 1 промилле; 250 г водки — до 2 промилле. Алкоголь выводится из организма тоже строго индивидуально: обычно его следов не остается в крови примерно через сутки после приема, но для некоторых достаточно и 6 часов.

*"Автопилот".*



# Не держите деньги в кубышках. На аукционе вы можете купить от прачечной до шикарной квартиры

МИНСК

**ОБЪЯВЛЕНИЕ**

О ПРОДАЖЕ ОБЪЕКТОВ КОММУНАЛЬНОЙ СОБСТВЕННОСТИ г. МИНСКА, НЕ ПРОДАННЫХ НА РАНЕЕ ПРОВОДИМЫХ АУКЦИОНАХ

**24 апреля**

*Аукцион состоится в **11.00 24 апреля 1997 года** по адресу: **г. Минск, пр-т Скорины, 25. В первом отделении** выставляются следующие объекты:*

| NN | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Наименование объекта | Прачечная самообслуж. N 9 МСКФ "Чайка" * | Прачечная самообслуж. N 40 МСКФ "Чайка" * | Прачечная самообслуж. N 41 МСКФ "Чайка" ** | Государственное предприятие "Столовая N241" *** | Здание **** | Незавершенное строительство насосной станции "Центр - База" ***** | Незавершенное строительство свинофермы ****** | Незавершенное строительство магазина "Часы" **** |
| 2 | Местонахождение объекта в г. Минске | ул. Украинская, 1 | ул. Пожарского, 27 | ул. Якубовского, 56 | ул. Я. Мавра, 22 | ул. Крупской | микрорайон Лошица - 1 | Минский р-н, дер. Курганы | ст. метро "Молодежная" |
| 3 | Начальная цена продажи (млн.руб) | 199 | 4710 | 3661 | 1001 | 536 | 5680 | 25650 | 850 |
| 4 | Сумма залога (млн.руб) | 19.90 | 471.00 | 366.10 | 100.10 | 53.60 | 568.00 | 2565.00 | 85.00 |
| 5 | Изменения условий продажи объекта | Сохранение назначения - 5 лет, числа раб. мест - 2 года (с продлением труд. отношений с работниками предприятия) | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений |

* Информационное сообщение об объекте опубликовано в газете "Республика" 12 октября 1996 года. ** Информационное сообщение об объекте опубликовано в газете "Республика" 26 октября 1996 года.
*** Информационное сообщение об объекте опубликовано в газете "Республика" 27 февраля 1997 года. **** Информационное сообщение об объекте опубликовано в газете "Республика" 28 декабря 1996 года.
***** Информационное сообщение об объекте опубликовано в газете "Республика" 23 августа 1996 года. ****** Информационное сообщение об объекте опубликовано в газете "Республика" 30 июля 1996 года.

***Дополнительную информацию можно получить по адресу: г. Минск, пр. Ф. Скорины 8, ком. 225, отдел конкурсов, аукционов Минскгоримущества, телефон 220-66-24.***

*Во втором отделении выставляются* 2-х, 3-х, 4-х комнатные квартиры 2-й и 3-й секции жилого дома (незавершенное строительство) по адресу: ул. Лодочная

| NN | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Наименование объекта | 2-х комнатная квартира N 35 | 2-х комнатная квартира N 39 | 3-х комнатная квартира N 75 | 3-х комнатная квартира N 73 | 3-х комнатная квартира N 71 | 3-х комнатная квартира N 69 | 3-х комнатная квартира N 67 | 4-х комнатная квартира N 34 | 4-х комнатная квартира N 38 |
| 2 | Местонахождение объекта | 4-й этаж | 5-й этаж | 6-й этаж | 5-й этаж | 4-й этаж | 3-й этаж | 2-й этаж | 4-й этаж | 5-й этаж |
| 3 | Начальная цена продажи (тыс.руб.) | 1914246.90 | 1914246.90 | 2477095.40 | 2477095.40 | 2477095.40 | 2477095.40 | 2477095.40 | 3267284.20 | 3267284.20 |
| 4 | Сумма залога (тыс.руб.) | 191424.69 | 191424.69 | 247709.54 | 247709.54 | 247709.54 | 247709.54 | 247709.54 | 326728.42 | 326728.42 |
| 5 | Общая/жилая площадь (кв.м.) | 81.76/38.76 | 81.76/38.76 | 105.8/56.36 | 105.8/56.36 | 105.8/56.36 | 105.8/56.36 | 105.8/56.36 | 139.55/78.66 | 139.55/78.66 |
| 6 | Изменения условий продажи | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений |
| NN | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 1 | Наименование объекта | 2-х комнатная квартира N 36 | 2-х комнатная квартира N 40 | 3-х комнатная квартира N 76 | 3-х комнатная квартира N 74 | 3-х комнатная квартира N 72 | 3-х комнатная квартира N 70 | 3-х комнатная квартира N 68 | 4-х комнатная квартира N 37 | 4-х комнатная квартира N 41 |
| 2 | Местонахождение объекта | 4-й этаж | 5-й этаж | 6-й этаж | 5-й этаж | 4-й этаж | 3-й этаж | 2-й этаж | 4-й этаж | 5-й этаж |
| 3 | Начальная цена продажи (тыс.руб.) | 1914246.90 | 1914246.90 | 2520175.30 | 2520175.30 | 2520175.30 | 2520175.30 | 2520175.30 | 3267284.20 | 3267284.20 |
| 4 | Сумма залога (тыс.руб.) | 191424.69 | 191424.69 | 252017.53 | 252017.53 | 252017.53 | 252017.53 | 252017.53 | 326728.42 | 326728.42 |
| 5 | Общая/жилая площадь (кв.м.) | 81.76/38.76 | 81.76/38.76 | 107.64/56.36 | 107.64/56.36 | 107.64/56.36 | 107.64/56.36 | 107.64/56.36 | 139.55/78.66 | 139.55/78.66 |
| 6 | Изменения условий продажи | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений |

Информационное сообщение опубликовано в газете "Советская Белоруссия" 23 ноября 1996 года. ***Оплата всех объектов, выставленных на аукционе, производится в соответствии с условиями проведения аукциона.***

Народная Воля 18 КРАСАВІКА 1997 г.

# Не делайте нас лучше, господа!

(Окончание. Начало на 3-й стр.)

Когда я чересчур увлеклась изучением методологической литературы, ко мне присоединился мой приятель. Ознакомившись с предметом, он сделал следующий вывод: "Вот кто действительно сумасшедшие. Сразу после падения Советского Союза люди начали издавать журнал, где исследуют, как можно мыслить в тоталитарном обществе. Извини, но тебя, наверное, недолечили, если ты все это читаешь". Я прислушалась к голосу разума и самообразование прекратила. Но новые выпуски "Вопросов методологии", хранящиеся в Национальной библиотеке, по-прежнему испещрены пометками внимательных читателей.

Однако, скажет адепт оргдеятельностных игр, что делать людям, которые хотят научиться эффективно мыслить. У тех, кто хочет этого сам, отвечу я, есть множество возможностей. С одной из них я познакомилась несколько лет назад на семинаре по теории решения изобретательских задач. Люди, осваивающие эту теорию, достигают сходных с методологами результатов. Только достигают без транса, НЛП и прочей экзотики — просто путем изучения необходимого алгоритма действий. Это немного дольше, чем оргдеятельностная игра, но зато гораздо понятнее. Правда, преподаватели тризовских семинаров не испытывают сомнительного удовольствия ощущать себя магами и волшебниками. Зато слушатели благодарны им за внятные формулировки. Сравните, например, две вот такие: первая — из журналов "Вопросы методологии", вторая — из тризовской книжки "Творчество как точная наука" Г.Альтшуллера: "Я утверждаю еще раз, что многие дискуссии порождены отсутствием техник проблематизации, когда различные элементы единого поля смысла и содержания не охватываются диалектическим рассуждением, а в организационных или политических целях фиксируются и противопоставляются друг другу в форме апорий или формальных оппозиций". "Мир, в котором мы живем, устроен сложно. И если мы хотим его познавать и преобразовывать, наше мышление должно правильно отражать этот мир. Сложному, динамичному, диалектически развивающемуся миру должна соответствовать в нашем сознании его полная модель — сложная, динамичная, диалектически развивающаяся". Полчаса работы с "Философским словарем" — и вы поймете: речь примерно об одном и том же. А кроме деклараций у тризовцев есть внятно описанный способ создания этой модели, у методологов — только "системомыследеятельностный подход", запускающий некий "процесс" (не путать с шизофреническим).

Впрочем, и экзотика может нравиться. Если тренинг по НЛП проводит профессионал, если есть медицинский контроль и участники предупреждены о возможных эффектах — почему нет? Только, говорят, стоит это довольно дорого и каждый участник вносит плату сам, руководствуясь личными целями, а не задачами развития национального кинематографа.

К сожалению, об имеющихся вариантах не каждый знает, а идти путем традиционного образования долго и утомительно. Но осознанный выбор все-таки возможен. Пример человека, увлекающегося методологией, но так и не ставшего адептом игр, мне известен. Правда, этот человек слишком хорошо освоил собственную профессию педагога, чтобы ее менять, правда и то, что выяснение отношений с методологами у него еще — уже шесть лет — продолжается. Но по крайней мере обращать в эту веру воспитанников он не пытается. Кайф кайфом, но безопасность детей важнее.

Впрочем, и методологи уже не так страшны. Больших игр — по причине дороговизны — давно не проводят, а с методологических семинаров, говорят, никто еще в Новинки не уезжал. В возможных последствиях работы уже убедились и, на всякий случай, когда начинается самая экзотика, держат под рукой горсть транквилизаторов для успокоения увлекшихся. Ну а если охота кому-то тратить время на странные игры — вольному воля.

Недавно мне пересказали выступление одного из идеологов движения: дескать, смысл сегодняшней эволюции человечества — в битве огромных "гуманитарных машин". На войне как на войне, и победителю достанется право строить мир по своему усмотрению. Услышав это, я поняла, что вендетту методологам объявлять не хочу. Мне их скорее жалко: они живут в очень небезопасном, просто угрожающем пространстве. Мой мир, где их загадочной терминалогии нет места, зато почти каждое событие можно обсудить с любым случайным попутчиком, — гораздо комфортнее и, по-своему, дает не меньше простора для самовыражения.

Методологам — методологово, но как быть с социальными амбициями. Ведь, действительно, иногда чертовски хочется и свободы слова, и национальной культуры, и разумной экономики, и даже где-то приличествующих дат национальных праздников. Что же, об этом, защищая интересы оппонентов, и сказать не сметь?

Еще как сметь. Уважаемые мной тризовцы утверждают, что до конца продуманную теорию можно объяснить даже ученику младших классов, а человек, делающий выбор осознанно, делает его в своих интересах. Социальные проекты касаются гораздо большего числа людей, нежели проблемы мышления как творчества. Почему же им оставаться неясными до конца даже самим создателям и совершенно недоступными обывателю — ни теоретически, ни практически?

Как-то разговаривали мы с одним деятелем национального возрождения. Он убеждал меня, что всякий сознательный белорус должен писать по-белорусски. Я не соглашалась: дескать, если родители русскоязычные белорусы, то и родным языком приходится считать русский. Сошлись на том, что досконально выучить "мову" все же стоит. "Завтра же начну, — пообещала я. — Мне как раз не хватает знания традиционной орфографии. Где можно купить учебники?" — "А вот с учебниками пока напряженка, — развел руками он, — учебника такого пока не издали. Но дело же не в нем, а в принципе!" Комментарии, по-моему, излишни.

Возвращаюсь к тому, с чего начала: много вокруг желающих нас облагодетельствовать своими вариантами хорошей жизни, не объясняя толком, что ждет новообращенных. От авторов объявлений о наборе на курсы по усовершенствованию характера до авторов политических комментариев. Что поделаешь: в такой стране нам повезло родиться. Но не стану призывать объявлять войну тоталитаризму вплоть до расстрела каждого носителя тоталитарного образа мыслей. Как рассказали мне в той же "Конкордии", даже в трансе нельзя заставить делать человека то, что противоречит его личным убеждениям. А если тебя пытаются вовлечь в некий сомнительный проект — от психоза до решения чужих корпоративных проблем — спроси себя, зачем это нужно тебе лично. И не бойся прослыть эгоистом: человек, занимающийся только тем, что интересно ему самому, добрее и к окружающим.

**Валентина РУБАШИНА.**

***Статья подписана псевдонимом, но автор будет рад знакомству через редакцию с каждым, у кого остались вопросы после прочтения.***

## Навіны з Малдовы

### Настаў час барацьбы з карупцыяй

У Малдове створаны Дэпартамент па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, які з'яўляецца спецыяльным органам па крымінальных расследаваннях і папярэдняму следству па справах, звязаных з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй.

На думку сакратара Вышэйшага савета бяспекі дзяржавы Георге Кырлана, стварэнне новага органа мае на мэце садзейнічаць радыкальнаму змяненню стану спраў у рабоце па выкараненню гэтых заган грамадства. Ён таксама лічыць, што ў рэспубліцы да гэтага часу не было структур, якія займаліся б выключна расследаваннем такіх цяжкіх злачынстваў, як заказныя забойствы, крадзяжы ў буйных і асабліва буйных памерах, хабарніцтва і іншых.

Новы дэпартамент будзе ўзаемадзейнічаць з аператыўнымі падраздзяленнямі міністэрстваў унутраных спраў, нацыянальнай бяспекі, абароны і з Пракуратурай.

**Малдпрэс-БелТА.**



## Народны каляндар

# Вербніца

Набліжаецца адно з галоўнейшых свят народнага календара і, бадай, самае вялікае свята веснавога цыкла — *Вялікдзень* (Пасха). У гэтым годзе (па сваёй прыродзе гэтае свята рухомае) святкаванне Вялікадня прыпадае на 27 красавіка (14 красавіка — па стар. стылю), як заўсёды — на нядзелю.

Тыдзень перад Вялікаднём — апошні тыдзень Вялікага, 40-дзённага, посту. Пачынаецца гэты тыдзень з *Вербнай нядзелі, з Вербніцы*. Такім чынам, нядзеля 20 красавіка — Вербная нядзеля.

Цэнтральным элементам святкавання Вербніцы з'яўляюцца асвечаныя ў царкве галінкі вярбы. У Евангеллі ад Мацвея паведамляецца аб прыходзе Ісуса Хрыста ў Ерусалім. Вестка аб тым, што Збавіцель накіроўваецца ў горад, хутка абляцела ўсіх яго жыхароў, і вялікае мноства людзей выйшла насустрач Сыну Божаму. Ерусалімцы горача віталі прарока, зрываючы пальмавыя галінкі і ўсцілаючы імі дарогу Хрысту. Хрысціянская царква ўшаноўвае гэтую падзею вялікім святам, толькі ў славянскіх абрадах месца экзатычных пальмавых галінак занялі больш звыклыя і родныя нам — вербныя. Аднак галінкі вярбы напамінаюць нам не толькі аб радаснай сустрэчы Госпада жыхарамі Ерусаліма — карані гэтага свята ўходзяць яшчэ ў дахрысціянскія часы — у народнай свядомасці час цвіцення вярбы (дрэва, якое раней за іншыя адгукаецца на веснавое цяпло) — гэта перш за ўсё час абуджэння ўсёй зямлі, усяго жывога, гэта яшчэ адно сведчанне таго, што зіма не вечная, што прыйшла вясна і хутка ўсё зазелянее, зацвіце, гэта сведчанне, якое паўтараецца штогод, але, нягледзячы на гэта, штогод чалавек усхвалявана чакае яго.

Асвечаным у царкве галінкам вярбы прыпісваюцца шматлікія магічна-аздараўленчыя ўласцівасці; людзі вераць, што дрэва, якое першым адчувае набліжэнне вясны, а таксама з'яўляецца сімвалам здароўя і дабрабыту, павінна перадаць свае моц, прыгажосць, здароўе чалавеку і хатнім жывёлам. Таму яшчэ з язычніцкіх часоў захаваўся звычай несці асвечаныя ў гэты дзень галінкі дадому і там, рытуальна, сцебануць імі кожнага з членаў сям'і па тры разы, прыгаворваючы: "Вербахлёст б'е да слёз; не я б'ю, вярба б'е, няхай на здароўе жыве!" Або:

*Не я б'ю, вярба б'е,*
*За тыдзень — Вялікдзень.*
*Хвора ў лес на верас,*
*А здароўе ў косці.*
*Не я б'ю, вярба б'е,*
*За тыдзень — Вялікдзень.*
*Будзь здароў, як вада,*
*А расці, як вярба!*
*Будзь здароў на ўвесь год!*

* * *

*Не я б'ю, вярба б'е,*
*За тыдзень — Вялікдзень.*
*Будзь вяліка ды страйна,*
*Як вярба.*
*Будзь здарова, як вада,*
*Будзь багата, як зямля!*

У першую чаргу такі "вербахлёст" адрасуецца, вядома ж, дзецям. Гэтак жа хто-небудзь з дамачадцаў "частуе" і вербнага вестуна. Пры сустрэчы ў гэты дзень вітаюцца не поціскам рукі, не здымаючы шапкі, а хлястаннем вярбою.

Пасля царкоўнага асвячэння вярба становіцца ганаровай святыняй дома, ёю ўпрыгожваецца чырвоны кут у хаце — бажніца, дзе яна і застаецца на ўвесь год, і часта выкарыстоўваецца для гадавых патрэб дома, пра якія — ніжэй.

За бажніцу кладзецца толькі частка галінак, з другой часткай гаспадар абыходзіць усе пабудовы для жывёл, тройчы злёгку сцябае пруцікам кожную жывёліну паасобна, а затым утыкае яго ў шчыліну сцяны. Не застаецца без вербнага прывітання ніводная жывая істота, у тым ліку і пчолы, хаця ў той жа час не падпадаюць пад звычай кошкі і сабакі. Пупышкі вярбы ў гэты дзень таксама падмешваюць жывёле ў ежу. Нашы продкі верылі, што асвечаная вярба ахоўвае жывёлу ад благога вока, ад хвароб, спрыяе добрай малочнасці, пладавітасці. (Дарэчы, вербнымі пруткамі, пакінутымі ў шчыліне хлява ці канюшні, выганяюць першы раз жывёлу ў поле (6 мая) і коней — на начлег (22 мая): "Верба свята — нова лята, верба пасвіці ў поле гнала". Пастух і конепас тройчы сцёбаюць выгнаную на пашу жывёлу і носяць пруток з сабой увесь дзень замест пугі. З галінкай вярбы земляроб распачынае ўзорванне яравога поля, веснавую і асеннюю сяўбу, пасадку бульбы і г.д.: "Свята Вербніцы сошкі правіць".)

Прасочым далей за ахоўна-магічнымі дзеяннямі селяніна. З другім вербным пруцікам гаспадар абыходзіць сад, дзе тройчы сцябае кожнае пладаноснае дрэва, а затым — агарод і азімае поле, якія таксама падвяргаюцца "вербахлёсту", і ўтыкае вербны пруток у адзін з куткоў сваёй гаспадаркі. Таму нярэдка можна ўбачыць, што пры поле ці на мяжы агарода, калі зямля вільготная, нізінная, вырасла разгалістая вярба — нечаканая дачка сціплага вербнага прутка.

З трэцяй вербнай галінкай гаспадар кіруецца да могілак, да сваякоў-нябожчыкаў, каб і іх павітаць у гэты светлы дзень; у гэтым выпадку вербачка таксама не вяртаецца дадому, а пакідаецца там, на месцы правядзення рытуалу.

Як ужо зазначалася, на працягу ўсяго вербнага года асвечаныя галінкі вярбы, што беражліва захоўваюцца ў бажніцы, абслугоўваюць паўсядзённыя патрэбы селяніна. Так, напрыклад, у якасці ахоўнага амулета вярба скарыстоўваецца пры набліжэнні навальніцы. У час першага грому ўсе члены сям'і з'ядаюць па адной пупышцы з вербнага прутка, затым лажацца на зямлю і перакульваюцца. Пачуўшы грымоты, гаспадыня запальвае грамнічную свечку, а вербны пучок ставіць на падаконнік з таго боку, адкуль насоўваюцца дажджавыя хмары, а значыць, і магчымая небяспека для любой сялянскай хаты.

Гаючыя ўласцівасці, якімі надзяляецца асвечаная вярба, выкарыстоўваюцца селянінам як лячэбны сродак. Самае распаўсюджанае "лячэнне" — гэта сімвалічнае пахлёстванне хворых з прыказкай: "Не я б'ю, вярба б'е. Хвароба ў лес, здароўе ў косці". Маці даюць па тры пупышкі сваім дзеткам, каб перасцерагчы іх ад ліхаманкі, а каб утаймаваць зубны боль, трэба з'есці 9 асвечаных вербных пупышак (іх называюць "авечкамі") і прашаптаць такую замову:

*Маладзік, маладзенькі,*
*Твой ражок залаценькі,*
*На могілках бываў?*
*— Бываў.*
*— Мёртвых відаў?*
*— Відаў.*
*— Мёртвыя спяць?*
*— Спяць.*
*— Іхні зубы не баляць?*
*— Не баляць.*
*— Хай і мае не баляць.*
*— Хай не баляць.*
*— Як табе, маладзіку, жаны не мець,*
*Так маім зубам не балець.*

У некаторых мясцовасцях бабкі-шаптухі замаўлялі ваду і рэкамендавалі піць настоі на пупышках бяздзетным жанчынам. Хатняя жывёла пры хваробе акурваецца вярбой, акурваецца таксама і гняздо квахтухі, цельная карова і наогул жывёла, якая чакае прыплоду.

Рэшткі вярбы ніколі не выкідваюць, а зберагаюць да наступнай Вербніцы; і толькі калі новая вярба з'явіцца ў доме, старыя галінкі назаўтра, у панядзелак, спальваюцца ў печы. Прычым попел кожная дбайная гаспадыня імкнецца аддзяліць і рассыпаць па градках, спадзеючыся на добры ўраджай. Пры пераездзе ў новы дом вербны пучок раздзяляецца напалам: адна частка яго застаецца ў старым доме, другая — пераносіцца ў новы.

На Вербніцу незамужнія дзяўчаты варожаць: сцебануўшы незнаёмага хлопца вербнай галінкай, пытаюцца ў яго імя, думаючы, што так будуць зваць будучага мужа.

Маразы, што часам здараюцца на Вербніцу, называюць "вербічамі". Лічаць, што яны неабходныя менавіта ў гэты час, каб не прыйшло больш позніх маразоў, якія могуць пашкодзіць яравым.

Раю Вам, паважаныя, сустрэць Вербную нядзелю з радасцю, з адкрытай душою, няхай абавязкова ў гэты дзень з'явяцца ў Вашых дамах галінкі вярбы, можа, не асвечаныя менавіта царкоўным рытуалам, але абавязкова сагрэтыя Вашай вераю, шчырым сэрцам, а значыць, — асвечаныя. Няхай пупышкі вербачак — гэтыя самыя надзейныя веснавыя прыкметы — прынясуць у Вашы сем'і цеплыню, спакой і надзею. І няхай, нарэшце, прыйдзе такая доўгачаканая ў гэтым годзе вясна!

*Дай жа, Божа, гэта свята праважаці,*
*Свята Вялічка дажыдаці!*

**Падрыхтавала Кацярына ГУТКОЎСКАЯ.**

## Крымінал

### Фінал разбойных нападаў – затрыманне і суд

У Гомелі 11 красавіка ў 23 гадзіны ў кабіне ліфта невядомыя, пагражаючы пісталетам, адабралі ў жанчыны — прыватнага прадпрымальніка 1 мільён рублёў, 1000 долараў ЗША і залатыя завушніцы. Жанчына звярнулася ў міліцыю толькі ў 2 гадзіны 50 мінут, што істотна ўскладніла вышук злачынцаў.

Набліжаецца да канчатковага раскрыцця разбой, учынены 24 сакавіка тут жа, у Гомелі, у ліфце жылога дома па вуліцы Малайчука. Тады, пагражаючы нажом, злачынцы спрабавалі адабраць грошы ў вучаніцы 11-га класа. Не разгубіўшыся, дзяўчына пачала крычаць і клікаць на дапамогу. Тады нападаўшыя ўцяклі, а нядаўна яны затрыманы міліцыяй.

Затрыманы і жыхар адной з каўказскіх рэспублік, які пражывае ў Мінску без прапіскі і рэгістрацыі. 19 лютага разам з саўдзельнікам на вуліцы Нававіленскай ён насільна завалодаў аўтамабілем мінчаніна.

За ўчынены 7 красавіка ў электрапоездзе Мінск — Крупкі разбойны напад з нанясеннем цялесных пашкоджанняў затрыманы двое жыхароў Пскоўскай вобласці, а таксама заезджы сургутчанін, які ўварваўся 13 красавіка ў кватэру гандлёвага агента адной з мінскіх вытворча-камерцыйных фірм і ўкраў там відэаплэер з касетамі.

**Сяргей ЦІВАНАЎ.**

### Злодзеі перашкаджаюць пасяўной кампаніі

Ледзь не застаўся без аўтамабільнага масла перад веснавой кампаніяй калгас "Смолькі" Касцюковіцкага раёна. Двое расійскіх вадзіцеляў уначы завярнулі да гаручазмазачнага склада гаспадаркі, узламалі замок, падагналі да эстакады свой грузавік КамАЗ і закацілі ў кузаў дзве бочкі з аўтамаслам па 200 літраў кожная. Пакуль прачнуўся вартаўнік, злодзеяў і след прастыў.

Але мясцовая міліцыя спрацавала аператыўна. На другім канцы раёна чарнобыльскі КПП каля вёскі Гарбавічы пераняў аўтамабільных злодзеяў. Усё аўтамасла вернута калгасу. Залётныя вадзіцелі затрыманы. Цяпер з імі разбіраюцца праваахоўныя органы.

А вось у калгасе імя Дзяржынскага Быхаўскага раёна 1070 літраў гаручага зніклі бясследна. Паліва пакуль не знойдзена, не злоўлены і злодзеі.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**

## Спорт

■ *Хоккей*

### Не сглазить бы. Тьфу-тьфу

Бесспорно, главным спортивным событием, за которым следят белорусские болельщики, стал стартовавший в польских городах Катовице и Сосновец чемпионат мира по хоккею в группе "В".

Большие надежды возлагаем на сборную Беларуси. В первом матче наши парни легко расправились с датчанами (9:3), во втором огорчили поляков (7:2).

Пригодятся результаты остальных матчей завершившейся недели. Швейцария — Голландия — (8:3), Польша — Великобритания — 3:2, Казахстан — Австрия — 5:3, Швейцария — Дания — 6:4, Голландия — Австрия — 2:2, Казахстан — Великобритания — 4:2.

Перед днем отдыха таблица чемпионата выглядит следующим образом:

| | И | В | Н | П | Ш | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусь | 2 | 2 | 0 | 0 | 16—5 | 4 |
| Швейцария | 2 | 2 | 0 | 0 | 14—7 | 4 |
| Казахстан | 2 | 2 | 0 | 0 | 9—5 | 4 |
| Польша | 2 | 1 | 0 | 1 | 5—9 | 2 |
| Австрия | 2 | 0 | 1 | 1 | 5—7 | 1 |
| Голландия | 2 | 0 | 1 | 1 | 5—10 | 1 |
| Великобритания | 2 | 0 | 0 | 2 | 4—7 | 0 |
| Дания | 2 | 0 | 0 | 2 | 7—15 | 0 |

Специалисты считают, что очень важным для белорусов будет очередной матч — со сборной Казахстана.

Не лишне напомнить читателям регламент турнира. В связи с расширением группы "А" в будущем году до 16 команд шансы влиться в элиту мирового хоккея имеют четыре сборные. Победитель поднимается вверх автоматически. Туда же при любом раскладе попадает Швейцария как хозяйка чемпионата мира-98. Еще три команды плюс последняя в группе "А" разыграют летом две путевки в высший эшелон. Есть у белорусского хоккея шансы, никогда до этого не было так близко счастье. Сплюнем через левое плечо и продолжим "болеть".

■ *Футбол*

### Поля, поля, кто вас усеял

VII национальный чемпионат страны по футболу начался с матча в Могилеве "Днепра" с новополоцким "Нафтаном-Девоном". Гости открыли счет, и их игрок Стрипейкис стал автором первого гола. Правда, это лишь раззадорило опытных днепровцев, и они одержали победу — 2:1.

С интересом ожидали могилевчане встречу дебютанта 1-й лиги "Трансмаша" с чемпионом 1996 года мозырским МПКЦ. Здесь — 0:0. Другой дебютант — "Коммунальщик" из Слонима в гостях переиграл ФК "Молодечно" — 1:0.

Больше никаких неожиданностей. "Динамо" Бр — "Атака" — 2:2, "Шахтер-Беларуськалий" — "Локомотив-96" — 0:1, "Торпедо" Мн — "Динамо-93" — 0:3, "Неман" — "Белшина" — 0:2, "Торпедо-Кадино" — "Динамо" Мн — 1:4.

В тяжелых условиях проходят матчи. И без того негожие поля в большинстве городов под ударами природы не выдержали. Тут не до высокого мастерства, быть бы живу.

Кстати, подобная ситуация (погодная) обрушилась на Россию. Здесь сыграны пять туров. Лидерство захватил московский "Спартак", вплотную за ним идут "Ростсельмаш" и московское "Динамо".

### Скоро и нам пора

В 4-й отборочной группе чемпионата мира состоялся первый матч из серии этого года: Шотландия — Эстония — 2:0. А затем и второй: Шотландия — Австрия — 2:0. Сборная Беларуси готовится к матчу с футболистами Латвии на их поле (30 апреля).

Положение команд в 4-й группе до того дня сохранится в таком виде.

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шотландия | 6 | 4 | 2 | 0 | 7—0 | 14 |
| Австрия | 4 | 2 | 1 | 1 | 3—3 | 7 |
| Швеция | 4 | 2 | 0 | 2 | 7—4 | 6 |
| Эстония | 4 | 1 | 1 | 2 | 1—3 | 4 |
| Беларусь | 4 | 1 | 1 | 2 | 3—7 | 4 |
| Латвия | 4 | 0 | 1 | 3 | 3—7 | 1 |

■ *Криминал*

### За разбой надо отвечать

С того дня, ошарашившего город сообщением о разбойном нападении на квартиру трижды олимпийской чемпионки по фехтованию Татьяны Самусенко, прошло больше года. Из пятерых бандитов правоохранительным службам удалось задержать троих. Пока шло следствие, Самусенко перенесла сложные операции. Прыжок из окна нанес серьезные повреждения. За двадцать лет в большом спорте она не имела столько и таких травм, которые до сих пор мучают.

Дело о разбое рассматривал суд Фрунзенского района столицы. И проявил незнание или нежелание как следует разобраться и отправил документы на доследование. Наконец, дело попало к новому составу суда. В минувшую пятницу прозвучал справедливый приговор. Комаровскому предстоит отбывать в колонии особого режима 15 лет, Пузыренко — строгого 12, Супрановичу ни усиленном режиме — 6 лет.

Поиск двоих из скрывающихся продолжается. Сколько веревочке ни виться, конец будет.

Кстати, почему суд не предпринял усилий, чтобы Татьяне Дмитриевне был возмещен материальный ущерб? Она пояснила, что об этом речь вообще не шла.

**Раздел ведет Александр МАЙСКИЙ.**

## Здарэнне

### Тры кілаграмы ртуці на балконе

Знойдзеныя на дыване адной з брэсцкіх кватэр бліскучыя шарыкі аказаліся... ртуццю. Спецыялісты аварыйна-выратавальнага атрада, якія прыбылі на месца здарэння, не толькі зафіксавалі ў кватэры перавышэнне канцэнтрацыі пароў ртуці ў шмат разоў, але і знайшлі на балконе ў шкляным слоіку аж тры кілаграмы гэтага ядавітага рэчыва. Як высветлілася, былы муж гаспадыні, з якім яна цяпер у разводзе, прыхапіў яго яшчэ гадоў восем-дзевяць таму ў СПМК-8 быццам бы для выраба "звышмагутнай" тэлеантэны. Па факту незаконнага захоўвання ртуці пракуратурай Маскоўскага раёна заведзена крымінальная справа. Затрыманы і той, хто прынёс яе дадому.

Дарэчы, як паказалі пробы паветра, на шчасце, ні ў суседніх кватэрах, ні ў размешчаным унізе прадуктовым магазіне ўтрымання пароў ртуці не выяўлена. Відаць, і гаспадары самой кватэры не паспелі атруціцца. Аднак гэта гісторыя атрымала нечаканы працяг.

Хоць пражыванне ў кватэры і было часова забаронена, праз некалькі дзён гаспадыня з сынам вырашылі праветрыць злашчасны дыван, вынеслі яго і паклалі на лаўку перад пад'ездам. І пакуль яны хадзілі за іншымі рэчамі, дыван гэты, дзе канцэнтрацыя пароў ртуці перавышала норму ў 300 разоў, нехта ўкраў. Невядомыя падабралі і некаторыя іншыя рэчы, якія гаспадыня выкінула ў кантэйнер для смецця. Новым уладальнікам гэтыя рэчы могуць прынесці бяду.

**Іван КУКСА, БелТА.**

## ТЕЛЕПРОГРАММА

### Пятница, 18 апреля

**Белорусское телевидение**

**7.30** Утренний коктейль.
**7.45, 16.50** "Музыкальная обойма". Белорусский хит-парад.
**7.50** Экономикст.
**8.00, 13.00, 15.00, 17.35, 0.05** Новости.
**8.10** "Телебарометр". Прогноз погоды.
**8.20** Вселенная. Беларусь и космонавтика.
**8.55** "Девки ворожат, девки чаруют..." Видеофильм с участием фольклор-театра "Гостица".
**9.00** ТВ — школе. Белорусская литература. 9-й класс. Нил Гилевич и его творчество.
**9.30** Бархатный сезон.
**10.00** Детский сеанс. "Переход".
**10.30** "Все мы родом из детства". Третий Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Витебская область. Часть 2-я.
**11.25** "АРТ-клуб". Львовские этюды с Романом Виктюком.
**12.05** "Одна ночь". Короткометражный фильм.
**15.15** Видеокурс французского языка.
**15.45** Творцы. Поэт Павлюк Пранузa.
**16.00** Усадьба. Программа для дачников.
**16.30** К Дню охраны памятников. "Замки и крепости". Телеочерк.
**16.55** Чемпионат мира по хоккею. Беларусь — Швейцария.
**19.35** Международный курьер.
**19.55** "В джазе только девушки". Развлекательная программа.
**20.25** Музыкальный антракт.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** "Цептер" представляет: Эрик Робертс в худ.фильме "Скорая помощь" (США).
**23.35** Акколада.

**ОРТ**

**11.00, 14.00, 17.00, 23.15** Новости.
**11.15** Людмила Гурченко в фильме "Гулящая".
**12.40** Джентльмен-шоу.
**13.10** Парижские тайны Эльдара Рязанова. Пьер Ришар.
**13.55, 20.40, 1.30** Программа передач.
**14.20** "Легенды острова сокровищ". Мультсериал.
**14.45** Фильм-сказка "Конек-горбунок".
**15.55** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** Магия: мир сверхъестественного.
**17.20** "Девушка по имени Судьба". Сериал.
**18.10** Погода.
**18.15** Человек и закон.
**18.45** Поле чудес.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.45** Великие сыщики: Коломбо в детективе "Забытая леди".
**22.30** Взгляд.
**23.30** "Ночной кинозал". Солдаты удачи в боевике "Псы войны".
**1.20** Пресс-экспресс.

**Канал "Россия"**

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**7.15** С добрым утром!
**8.05** "Клубничка". Телесериал.
**8.35** "Аншлаг" представляет.
**9.10** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**13.20** Ти-маркет.
**13.25** Автограф.
**13.30** Мультфильм.
**13.40** Подвиг веры.
**14.10** Иванов, Петров, Сидоров и другие.
**14.50** Золотая карта России.
**15.20** Палиха, 14.
**15.25, 23.55** Товары — почтой.
**15.30** "Клубничка". Телесериал.
**16.15** Там-там новости.
**16.25** Лукоморье.
**16.45** Посмотри на себя.
**17.00** Ничего,кроме...
**17.15** Парламентский вестник.
**17.45** Россияне.
**18.05** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**19.35** Добрый вечер.
**20.25** Баскетбол. Чемпионат России. 1/2 финала.
**22.35** Богема.
**23.15** Ночной экспресс.
**0.15** Телемагазин.

**Санкт-Петербург**

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ.
**12.10** "История любви". Сериал.
**13.00** Срок ответа — сегодня.
**13.35** Советы садоводам.
**14.10** Ток-шоу "Наобум". М.Ульянов.
**14.40** "Тревожный рейс номер 711". Худ.фильм. 2-я серия.
**15.30** Мультфильм.
**15.40, 20.45** Телеслужба безопасности.
**16.10** Штрихи к портрету авангарда.
**16.55** Белая полоса.
**17.30** Телемагазин.
**18.40** Большой фестиваль.
**19.15** Спорт.
**19.20** "История любви". Сериал.
**20.15** Звездный розыгрыш.
**21.00** "Тревожный рейс номер 711". Худ.фильм. 2-я серия.
**22.05** Событие.
**22.20** Хоккей. Международный турнир вторых сборных. Россия — Финляндия. 3-й период.
**23.00** "Фрейд". Сериал.

**НТВ**

**5.00** Сегодня утром.
**9.15** Утречко.
**9.30** Женские истории. "Доктор Куин, женщина-врач".
**10.30** Программа для детей. "Улица Сезам".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**12.00** Открытый мир.
**13.20** Большое "Времечко".
**15.35** Дистанция 60.
**16.35** Кинотеатр юного зрителя. Худ. фильм "Голубое дерево".
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.05** Наше старое кино. Фильм Леонида Гайдая "Бриллиантовая рука".
**21.45** Час сериала. "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
**22.40** Времечко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.20** Ночное "Времечко".
**23.45** Мир кино. "Жар тела". Худ. фильм (США).

**ТВ-6 Москва**

**6.00, 8.00, 13.50, 18.40, 20.40, 23.15** Шесть новостей.
**6.10, 23.45, 0.50** Диск-канал.
**6.40, 13.20** Мультсериал "Ветер в ивах".
**7.10, 23.30** Дорожный патруль.
**7.20** Рецепты от "Цептер".
**7.30, 13.05** 90 x 60 x 90.
**7.45, 10.15** Аптека.
**8.10** Частный случай.
**8.30** Ток-шоу "Мое кино" с Александром Олейниковым.
**9.25** Сериал "Династия II (Семья Колби)".
**10.25, 12.35** Телемагазин "Спасибо за покупку!"
**11.00** Худ. фильм "Вьетнам — Техас".
**18.10** Вы — очевидец.
**18.55** Ю.Толубеев, В.Смирнитский в фильме "Удар, еще удар".
**20.55** Клуб "12 копеек".
**21.25** Боло Янг в фильме "Сильнейший удар".
**0.30** Знак качества.

**8-й канал**

**18.00** Мульт-планета.
**18.15** Программа Кеннета Копланда.
**18.45** Фильм-сказка "О принцессе Ясочке и крылатом сапожнике".
**20.15** Весенние мелодии.
**20.25** Справочная служба-экспресс.
**20.30** Сериал "Горец".
**21.30** Сцена Европа.
**22.00** Харрисон Форд в х/ф "Ганновер-стрит".




**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя адказнасці не нясе. Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ЗАТ "Летувас рытас". Адрас: г. Вільнюс, пр-т Гедыміна, 12а.
Фармат А-2. Тыраж: першы завод —61 000 экз. Заказ № 648